Год II. — № 22. Пятніца, 3-га чэрвеня (юня) 1921 г. Цана нумару **10** марак.

# НАША ДУМКА

ПАЛІТЫЧНАЯ, ЭКАНАМІЧНАЯ І ЛІТЭРАТУРНАЯ ТЫДНЁВАЯ ГАЗЭТА.

У газэце супрацоўнічаюць: НАТАЛЬЛЯ АРСЕНЬНЕВА, Г. Б., ГЕННАДЗІЙ БОГДАНОВІЧ, ВІЛЯНЧУК, МАКСІМ ГАРЭЦКІ, А. ДМАХОУСКІ, АЛЕСЬ КАБЫЧКІН, КРАУЦОУ МАКАР, ДЗЕД КУЗЬМА, М. К-Ч., А. МСЬЦІСЛАУСКІ, ІВАН МЯЛЕШКА, АНТОН НАВІНА, АДАМ САЛАДУХ, КАЗІМІР СВАЯК, СТАНІСЛАУ ЧЫЖЭУСКІ і інш.

**Адрэс рэдакцыі і канторы: Вільня, Вострабрамская, 9.**
Цэны абвестак: за радок пэтыту: перад тэкстам—40 мар., сярод тэкста—60 м., на апошняй страніцы—15 марак. Увага: страніца мае 6 шпальтаў.
Падпіска: на 3 месяцы 150 польскіх марак або 10 хунтаў мукі, за граніцу 250 польскіх марак.

Пачынаючы ад 21-га нумару падпісная цана на газэту „НАША ДУМКА“ **падвышаецца** да **150** пол. марак на тры месяцы, за граніцу — **250** пол. марак.

Усіх паважаных падпісчыкаў просім даслаць розьніцу падпісной цаны.

**Рэдакцыя.**

## Да Беларускіх інстытуцыяў за граніцай.

Рэдакцыя зьвяртаецца да ўсіх Беларускіх Інстытуцыяў, якія самі адтрымліваюць „Нашу Думку“, або давалі загад аб высылцы газэты на розныя адрэсы, з просьбай аб прысылцы падпісных грошай.

Калі ў хуткім часе грошы ня будуць прысланы, высылка газэты па гэтых адрэсох будзе спынена з 25 чэрвеня г.г.

**Рэдакцыя.**

## Бяз голасу.

На Брусэльскай конфэрэнцыі прадстаўнік Лігі Нацыяў Гюманс падаў ужо гатовы проэкт вырашэньня лёсу Віленшчыны, ці так званай „Сьродковай Літвы“.

Праэкт гэты абляцеў ужо ўсе штодзенныя газэты і цэлы сэнс яго ў тым, што Ліга Нацыяў маніцца зрабіць даволі арыгінальную, падвойную дзяржаву — Літву з кантонамі (акругамі) Ковенскім і Віленскім.

Першы з іх—Ковенскі мае быць літоўскім, а другі—Віленскі — польскім.

Абодва кантоны разам твораць сабою Літоўскую Дзяржаву.

А гэта двохкантонная Літва мае быць у лучнасьці, на прынцыпе роўнасьці, з Польскаю Рэспублікаю праз заключэньне з ёю пэўных конвэнцыяў і стварэньне заусёдных органаў, якія выказвалі-б сабою гэтую лучнасьць.

Польшча й Ковенска-Віленская Літва захоўваюць пры гэтым кожная асобна сваю незалежнасьць і сувэрэннасьць.

Граніца паміж Літвою і Польшчаю проэктуецца такая, што Горадзеншчына ўсёю сваею большаю часткаю (нямаль што ўся) застанецца пад Польшчаю, а Віленшчына гэтак сама у найбольшай сваёй часьці будзе ў новаутворанай Літве.

Кантоны Літвы будуць аўтаномны па прыкладу швайцарскай фэдэральнай сыстэмы.

Агульны Урад для абодвых кантонаў мае карыстацца тым самым палажэньнем, якім карыстаецца швайцарскі ўрад у Бэрне.

Сталіцаю Літвы мае быць Вільня.

Армія мае быць пад адным камандаваньнем.

Мовы польская й літоўская маюць быць мовамі афіцыяльнымі ў цэлай Літоўскай Дзяржаве.

Каб была лучнасьць у загранічнай палітыцы паміж Літвою і Польшчаю, абодва Урады—польскі і Літоўскі маюць назначыць па тры прадстаўнікі, якія створаць супольную раду для загранічных справаў.

У часе вайны войскі Літвы і Польшчы маюць быць пад адным камандаваньнем і г. д., і г. д.

Вось больш-менш цікавы для нас кароткі сэнс брусэльскага праэкту.

Найцікавейшым зьяўляецца пытаньне: *якое палажэньне занялі-б беларусы ў тым выпадку, калі-б гэты проект быў праведзены ў жыцьцё-адтрымаўшы тыя, ці іншыя цьвёрдыя формы?*

Пункт 7 проекту гэткі:

*„У цэлай Літоўскай Дзяржаве запэўнены будуць усім этнічным меншасьцям найболей шырокія гарантыі ў межах таго, што датычыць навучаньня, рэлігіі, мовы і інш.*

Такім чынам аб беларускім народзе няма й мовы.

Ён тут падводзіцца пад разуменьне, як этнічная меншасьць, а што беларусы з Горадзеншчыны, пасьля праведзеньня брусэльскага праэкту ў жыцьцё, будуць знаходзіцца ў Польшчы, а беларусы Віленшчыны у Ліцьве і што, гэткім чынам, адбудзецца яшчэ адзін цікавы падзел жывога народу, бяз голасу ў гэтай справе яго самога, дык да гэтага нікому з аўтараў праэкту няма ніякага дзела.

Пры гэткім вырашэньні лёсу Віленшчыны, мы будзем нічым іншым, як нацыянальнай меншасьцю ў польскім кантоне Літвы.

А чым будуць нашыя браты ў Горадзеншчыне ў межах Польскай Рэспублікі?

Ці ня тым самым чым яны ёсьць сягоньня:

Об'ектам безцэрамоннай палянізацыі.

Тут у віленскім кантоне пад Літвою ўсё-ж такі будуць, як проэкт кажа, „найболей шырокія гарантыі, але што значаць самыя шырокія гарантыі дзе-небудзь у адным цесным кутку для парэзанага на кавалкі народу?

Над працоўным беларускім сялянствам Віленшчыны і Горадзеншчыны намечаны яшчэ адзін экспэрымэнт: разлучыць яго польскалітоўскаю дзяржаўнаю граніцаю.

А дзе-ж голас самога нашага працоўнага люду — беларускага сялянства з-пад Горадна і Вільні ў гэтай важнай для яго справе?

У Горадне ўсё ўжо як-бы й падрыхтована да новай навіны.

Разагнана беларуская арганізацыі, пазачыняны навет каапэратывы, беларускае жыцьцё прыдушана.

А тут у Вільні—пришла чарга сказаці сваё слова Беларускаму Нацыянальнаму Камітэту, як ён глядзіць на сваё месца, паводлуг праэкту Гюманса.

Праўда, з даданай намі сягоньня весткі беларускага загранічнага прэс-бюро відаць, што Урад Беларускай Народнай Рэспублікі праз сваю дэлегацыю ў Брусэлі падаў заяву Старшыне конфэрэнцыі Гюмансу аб жаданьні Віленшчыны і Горадзеншчыны жыць незалежным дзяржаўным жыцьцём, а навет і ў фэдэрацыі з Літвою, але, нарэшце, беларускую дэлегацыю толькі і ўсяго, што *выслухалі*, і яна *перадала абарону беларускіх інтарэсаў літоўскай дэлегацыі.*

Калі хто мае права дзе-небудзь галасаваць, дык ці-ж ён будзе перадаваць каму свой голас?

Беларусам на брусэльскай конфэрэнцыі права голасу не далі, як не давалі яго й на конфэрэнцыі ў Рызе.

Памятайма беларусы, што аб нас гавораць бяз нашага голасу.

Бо хто-б ні бараніў нашыя інтарэсы, хаця-бы й найдабрэйшыя нашыя суседзі, а гэта ўсё ня тое будзе, што мы самі.

## „Канстытуцыя“.

Кожны год Польшча сьвяткуе Констытуцыю 3 мая (трауня). Найбольш гэтым сьвятам цікавіцца інтэлігэнцыя, падахвочаная да ўрачыстага сьвяткаваньня заможнымі элемэнтамі, касьцёлам, а цяпер і урадам. Масы народу можа і ня вельмі зацікаўлены гэтым сьвятам бо, рэальна бяручы, цяпер гэна Констытуцыя 3 мая мала іх грэе. Паўстае пытаньне што такое констытуцыя ухваленая апошнім польскім соймам? Калі глянем у прошласьць і зраўняем з сучасным палітычным мамэнтам, дык пабачым, што констытуцыя 3 мая ухвалена выняткова польскай шляхтай; уся распалітыкаваная польская шляхта прызнала, што для дабра Рэчыпаспалітай патрэбна Констытуцыя. Народ ня браў ніякага удзелу ў гэтай працы, можа на‛т і ня ведаў, што констытуцыю ён можа сам сабе каваць. Цяпер для ухваленьня констытуцыі для Польшчы было дадзена права ўсяму польскаму народу, праз сваіх правамоцных прадстаўнікоў, прыняць удзел у гэтай вельмі важнай справе. Але, вось, дзякуючы таму палітычнаму ладу і тым эканамічным варункам, якія дагэтуль істнавалі і істнуюць, сойм польскі зложыўся так, што народ яго не зразумеў, можа не народ яго не зразумеў, а тыя выбраныя пaслы у сойм не зразумелі для каго яны укладываюць констытуцыю, ці для малой часткі каліс вельмі прывілігірованых людзей, ці для усяго народу. Сьвята новай констытуцыі для народу так сама бязсьледна. Чулая душа кожнага народу, нават і мала сьвядомага, ведае, што ўсе констытуцыі на паперы вельмі гладка напісаны, і чытаючы іх здаецца, што ў Дзяржаве будзе вельмі вольна і прыгожа жыць усім грамадзянам. Аднак на практыцы выходзіць інача. Констытуцыя па свойму тлумачыцца. Вось той параграф, каторы прызнае права нацыянальных меншасьцьцяў рэальна ў жыцьці ня прымаецца пад увагу. Як Расея пасьля 1905 году ня трымалася права констытуцыі і пад паглядам „мяцежа“ закрывала усялякую культурную работу другіх падуладных нарадаў, так Польшча, ня гледзячы на тое, што ўсе народы, знаходзючыся у межах Польшчы, маюць права ня толькі на свае уласнае культурнае жыцьцё, але зьяуляюцца у сябе самі гаспадарамі, пад паглядам ці то бальшавізму, ці масквафільства, не даець 4 мільёнам, прылучаных да Польшчы Беларусаў жыць сваім нацыянальным жыцьцём. Усюды ба-

чым: там закрылі беларускую школу, там гімназію, там настаўніцкую сэмінарыю абмежавалі у працы, там беларускія дзеці ў прытулку сядзяць галодныя і не апранутыя, хоць амэрыканскія дары назначаны для усіх прытулкаў, для усіх дзяцей.

Польская эндэцыя да таго пашла сьледам за былымі расейскімі ўладамі, што ня стыдаецца таго, на што няраз сама наракала. Сабірае па вёсках і фальварках беларускіх подпісы аб прылучэньні да Польшчы, няраз прапануючы за гэта падарунак—матар'яльную помач, як найлепшы аргумэнт і нейкую нязвычайную апеку ад польскага ураду. Беларусы ня вельмі сьпяшаюцца браць ад „К. О. К." іхныя дары, ведаючы добра цану сваіх подпісаў як і цану таго дабра, якое Польшча прынесла беларусам за увесь час свайго панаваньня, будучы нават да Рыжскага міру толькі гасьцём. Але-ж кучкі палякоў, нягледзячы на вядома варажы настрой людносьці, ня стыдаюцца выносіць фікцыйныя пастановы аб прылучэньні беларускай зямлі да Польшчы.

Вось такімі пастановамі Савецкая Расея прылучыла да Масквы ўсходнія беларускія землі бяз згоды народу, каторы свой твар сусім ясна выявіў на Усебеларускім Конгрэсе у Менску у 1919 годзе.

Але там у Расеі дыктатура над пролетарыятам, дыктатура Леніна і Троцкага, якія і пішуць дэкрэты ня лічачыся з воляй працоўнага народа, а ў Дэмакратычнай Польшчы Констытуцыя, дзе ўвесь народ праз сваіх прадстаўнікоў маець права кіраваць сваім жыцьцём. Констытуцыя даець гэта права, як даець права нацыянальным меншасьцям, але з гэтага права карыстаюць далёка ня ўсе.

Сусім вось і зразумела чаму сьвята констытуцыі, ня ёсьць сьвятам усяго народу, а толькі для тых, каторыя констытуцыю на свой лад злажылі, і пакуль увесь працоўны народ сам не ухваліць констытуцыі, гэтага фундамэнту вольнага справядлівага жыцьця, дагэтуль ня будзе сьвята у душы кожнага шчырага грамадзяніна, ня будзе сьвята і супакою у межах дзяржавы, ня будзе сьвята і супакою між народамі.

**Адам Вітт.**



# Што галава, то розум.

Самай клясычнай стараной, дзе розныя палітычныя партыі ўлажыліся у цьвердыя формы, прынята лічыць Англію, потым Амэрыку, Францыю, Італію і гэтак далей. Здаецца, ёсьць аксіомай, што чым слабейшы па культуры народ, чым пазьней ён выступіў на арэну палітычнага жыцьця, тым меней ён скрышталізаваўся ў палітычныя арганізацыі, выяўляючыя розныя кірункі нацыянальнай думкі. Мы, беларусы, зьяўляемся народам, каторы толькі пачынае арганізавацца пасьля многіх вякоў уціску і няволі. Сярод нас за апошнія гады зьявілася досыць многа людзёй, якія ўзялься за працу адраджэньня бацькаўшчыны. Мы верым, што аграмадная большасьць гэтых людзёй зусім шчыра аддае сябе сьвятой справе. Але мы добра ведаем, „што галава, то розум".

У нас, беларусаў, няма яшчэ скрышталізаваньня нашых палітычных імкненьняў і поглядаў. Мы не гаворым тут пра народ. Не! Народ ідзе за павадырамі навет у самай культурнай стране, хоць бы ў Англіі. У нас няма скрышталізаваньня навет сярод павадыроў. Вось перад вамі дзеяч, які адзначыўся у сваёй папярэдняй працы, як полёнафіл, або як літваман. Ўчора ён гаварыў так, заўтра іначай. Што дзень, то іншая музыка.. Даходзіць да таго, што трудна ўгадаць, што хто скажа, калі разглядаецца якое-небудзь паважнае пытаньне. І потым дзіву даешся, учуўшы з запалам сказаныя кім-небудзь словы, якія усё перакуляюць, зьніштажаючы іх аўтора, кіруючыя зусім ня у той бок, куды толькі што пазірала даная асоба.

Чаму-ж гэта так?

Таму, што у нас няма правільна арганізованых партыяў, а ёсьць „што галава, то розум".

Але пара, пара! Пара кінуць гульні і палітыканства, а стаць рабіць сапраўдную палітыку.

Нам здаецца, што старыя нашыя палітычныя партыі павіны-б былі праглядзець свае праграмы і сьпіс сяброў. Перажыты час выкрышталяваў нашыя імкненьні і, што куды важней, нашыя імёны.

Мы цяпер добра ведаем, што можна называць сябе адным, а быць другім. Можна гаварыць адно, а думаць другое. Ёсьць сярод нас, такія напрыклад, якія калі-сь-та лічылі сябе соцыялістамі, але цяпер так падобны на іх, як цьвік на паніхіду. Трэба-ж мець сьмеласьць афіцыяльна заявіць аб гэтым, а ня кляміць сваей асобай соцыялізму.

Ёсьць такія, каторыя прытрымліваліся раней аднэй, орыэнтацыі. Зьмяніліся часы і людзі сталі другімі, перамяніўшы і арыэнтацыю. Той, хто быў русафілам, зрабіўся полёнафілам, або літваманам, або проста беларускім незалежнікам. Так сталася. Ну і добра. Трэба сьмела аб гэтым усім сказаць. Трэба і згуртавацца па гэтых сучасных прыкметах у партыі, а не таіцца, ня кідацца ў бакі. „Како веруешы?" — «Камо грядзешы»? — павіны стаць пытаньнямі сучаснага мамэнту ў беларускай справе. Іначай яна завязьне на мёртвым пункце езуітызму і палітычнага ханжаства. Іначай—будзе „што галава, то розум", а можа і горай.

**С. Т.**

# Да ведама

## беларускіх культурна-прасьветных і грамадзкіх арганізацыяў.

Пры раптоўнай ліквідацыі ў Лодзі Беларускай Вайсковай Камісіі, Культурна-Прасьветнаю і Рэгулямінова-Школьнаю Падкамісіямі былі зданы 2-му Адзелу D. O. G. (Dowództwa Okręgu Generalnego) ў Лодзі разам з дробнымі канторскімі паперамі й рэчы болей паважныя, якія ня шкодзіла-б нашым грамадзкім арганізацыям папрабаваць вярнуць ад палякоў дзеля сваіх патрэбаў.

Здаючы Беларускаму Навуковаму Таварыству дакумэнты (сьпіскі) аб здачы бібліятэкі, рэгулямінаў і інш. мною, як фактычным кіраўніком сказаных дзьвёх падкамісіяў былае беларускае вайсковае інстытуцыі, я лічу нялішнім праз прэсу абвясьціць аб гэтым.

Як відаць з перадатачных сьпіскаў, Ліквідацыйная Камісія Лодзінскага Гэнэральнага Округу 4 мая 1921 году прыняла пад расьпіску паручніка Штарка:

1) *Бібліятэку* Культурна-Прасьветнай Падкамісіі Беларускае Вайсковае Камісіі ў ліку *559 экзэмпляраў* розных беларускіх (толькі некалькі экзэмпляраў польскіх і расейскіх) кніжак (*160 назоваў*).

2) Надрукованыя рэгуляміны (статуты) і вайсковыя падручнікі:

а) „*Пяхота*" ч. I—Фармальная муштра і ч. II—Школа бою, 112 стр. ў ліку 708 экзэмпл.

б) „*Стрэльба французскае пяхоты Мод 1907 — 1915 М. 16.*" 30 стр. — 762 экзэмл. (Велічыня кожнае з гэтых дзьвёх кніжак $16\frac{1}{2}\times12$ см.).

в) «*Дысцыплінарныя правілы караў для арміі*», велічыня 40 стр., $16\times12$ см., 866 экз.

г) «*Інструктар пяхоты*" ч. I фармальная муштра, 120 стр, $14\frac{1}{2}\times11$ см. 872 экз.

д) «*Восемтыднёвая праграма вышкаленьня рэкрута пяхоты*» з «*табліцаю*" 40 стр., $14\frac{1}{2}\times11$ см. у ліку 885 экзэмпл.

Гэтыя пяць статутаў былі выпушчаны з друку кожны ў ліку 1.000 экзэмпляраў, расход іх быў нявялікі і ўся вялізная рэшта, што засталася незрасходаванай, была здана Ліквідацыйнай Камісіі.

Кніжкі гэтыя — пераклады з польскіх вайсковых статутаў, але маюць у сабе й некаторую культурную вартасьць для нас збоку мовы, служачы фундамэнтам беларускай вайсковай тэрмінолёгіі і г. д.

Апрача надрукованых статутаў, зданы адбітыя на машынцы й зусім гатовыя да друку:

а) «*Стралецкая інструкцыя. Балістыка* і

б) «*Гарнізонная служба*», а так сама чарнавы рукапісны пераклад вайсковага статуту «*Абавязкі камандзера палку, батальёну, кампаніі*» і г. д.

Здана 11 клішэ, якімі ілюстрованы рэгулямін «Пяхота».

Пры ліквідацыі нехта казаў, што ўсё вышэйпералічанае будзе аддана беларускім грамадзкім інстытуцыям, калі яны гэтага патрэбуюць.

Наколькі гэта праўдзіва трэ' было-б праверыць і тое, што ў палякоў будзе валяцца лішнім, а для нас мае культурную вартасьць, папрабаваць забраць.

**М. К.**

24. V. 1921.

# Маленькі фэльетон.

## „Тоже" і „też".

— „Чаго нам найбольш трэба баяцца?" — задае пытаньне ў № 4 „Jedności" п. Казлоўшчын.

І адказвае на гэта вельмі проста: «тоже бѣлоруссов».

Там дзе даводзіцца аб шкодзе, якую робяць беларускаму руху гэтак ахрышчаныя элемэнты,—там спрачацца няма чаго.

Ваўкі ў авечай скуры туляцца да беларускага руху, але яны паходзяць ня толькі з гэтак званых «тоже бѣлоруссов».

Наагул рух наш расьце нязвычайна шпарка і ўжо сягоньня мы маем сваіх — незалежнікаў, эс-дэкаў, эс-эраў, хрысьцянскіх дэмакратаў, народнікаў, эс-эфаў і г. д.

Ніводная з гэтых групаў ня мае права сказаць, што яна толькі адна можа карыстаць вынятковым правам (манаполем) на беларускасьць.

Аднак згодзімся напэўна на тым, што ўсе вышэйназваныя групы, ўзятыя разам, трэба лічыць за асяродак беларускасьці, каля якога нарастаюць розныя слабавольныя элемэнты мяшчанства, чынавенства і інш.

Гэтыя няпэўныя, маладушныя ня групы, а паасобныя людзі, да якіх трэба залічыць шмат каго, моцна шкодзяць беларускаму руху тым, што яны няпэўны.

Але чаму, — спытаемся мы, гэткімі страшнымі здаюцца толькі адны «тоже бѣлоруссы»?

Чаму іх бачаць, а ня хочуць, ці ня могуць бачыць іх проціленасьці (антыподу) — też białorusinów (іншыя кажуць— белаляхаў).

Бо калі „тоже бѣлоруссы" цягнуць пад Маскву, дык „też białorusini" — пад Варшаву.

Першыя зьяўляюцца ворагімі беларускага народу пры панаваньні ў Беларусі маскоўцаў,—другія страшны, а лепей сказаць, шкодны, пры панаваньні палякоў.

Ўсё гэта проста і ясна.

А ці-ж ёсьць,—спытаюцца, — сапраўды ёсьць у нас і „też białorusini?

Само жыцьцё сьведчыць, што я не перакладаю „тоже бѣлоруссов" на польскую мову.

Беларусы з маркаю „też" жывуць, добра пабеларуску гавораць, а часам на-

# Адвечным шляхам.

## (Досьлед беларускага сьветагляду).

Час, калі трэба журыцца
Душою на сьвежых магілах
Пуста-пранёсшыхя днёў.

*М. Багдановіч.*

(*Пасьвячаецца У. І.*)

**Беларусь, як граніца паміж усходам і захадам.— Грунтоўная адзнака беларускай гісторыі—духовае ваганьне паміж усходам і захадам. — Тыповыя адзнакі усходу і захаду. — Мэсыянізм усходу і захаду.**

Нашы часы — часы агульнай заблутанасьці, часы паўстаньня праменных, быццам, ідэалаў й іх канечнага зьніканьня праз нядаўгі час... Тое, што раней здавалася чыстым і сьветлым, штодзенна аплятаецца жыцьцёвым брудам і пылам. Так зьнікаюць праменныя ідэалы, пакідаючы роспач і безнадзейнась. У такія часы адзінокая чалавечая душа шукае, пераглядаючы ўсе тоё, што здавалася каштоўным, сьвятым і жаданым.

I.

На беларускую справу прызвычаіліся глядзець, як на нешта надта нявыразнае, нявызначанае, ня маючае ў сабе духу жывога, каторы можа даць беларусам права на законнае сярод іншых народаў істнаваньне. Ў нявыразнасьці беларурускай культуры хочуць бачыць духовую сьмерць народу, яго няздольнасьць вызначыць свой ўласны ідэал. Фармальна мы павінны згадзіцца, што ў нас неакрэсьлена культура, што у нас смутны гістарычныя шляхі, але ў гэтым ня можна бачыць духовай беднасьці нашага народу, яго няздольнасьці ўласным крокам ісьці да вытварэньня ўласных формаў жыцьця, — не, жыцьцёвыя акалічнасьці даводзяць аб іншым, што навет меней здольныя, меней сільныя народы вытварылі культурна-вызначанае жыцьцё. Калі беларускі народ не стварыў выразнай культуры, дык гэта дзеля таго, што ў гістарычнай спадчыне яго была вялікая трагэдыя народнага духу, якую перажыць выпала толькі двум — тром эўрапэйскім народам: Беларусь ад X веку і да гэтай пары фактычна зьяўляецца полем змаганьня двох кірункаў эўрапэйскай, пэўне—арыйскай, культуры — заходняга і ўсходняга. Граніца абодвых уплываў, падзяляючы славянства на два станы, праходзіць праз Беларусь, Украіну і хаваецца ў балканскіх краёх.

Дзесяцёхвяковае ваганьне сьведчыць аб тым, што беларусы, як украінцы і балканскія славяны не маглі шчыра прылучыцца ні да аднаго ні да другога кірунку. Мы не зрабіліся народам ўсходу, але ня прынялі й культуры Зах. Эўропы. За ўвесь час нас пачалі зваць цёмным, дзікім народам.

Толькі па форме мы лічыліся каталікамі, або праваслаўнымі, грамадзянамі Масквы і Расеі, або Польшчы. Направер, мы былі благімі сынамі і цэрквы і касьцёлу і «ojczyzny» і «отечества». Толькі найбольш дрэнныя, духова-распусныя элемэнты нашага народу, як даўней—шляхта, а ў апошнія часы—частка страціўшай сувязь з народам інтэлігэнцыі, уцяклі ад беларускага карэньня, пакідаючы народ на свой ўласны лёс. І народ застаўся жыць сам па сабе: духовым жыцьцём — з ідэаламі і пераконаньнямі паганскай веры, гаспадарчым — з прадпрадвечнымі прыладамі земляробства: сахой, драўлянай бараной, цэпам і жорнамі, ў тым «вечным бары», аб каторым так жудасна пяе наш беларускі паэт.

Але адмовіўшыся ад карысьці выразнай культуры ў яе поўнасьці, народ схаваў незалежнасьць свайго духу. І вось, зараз, калі пабліжаецца вялікі крызыс датыхчасовых ідэалаў, калі ўся «культура» знаходзіцца ў небясьпецы і гатова разваліцца ў руіны, беларускі народ,—як быццам зьнімаюць з яго векавыя ланцугі,— прабуджаецца да жыцьця, да шуканьня новых ідэалаў, да стварэньня новых падставаў чалавечага жыцьця.

Гэта — праўда, што мы мала маем, гэта — праўда, што мы шукалі па чужых дарогах і, не знайшоўшы, або здрадзілі бацькаўшчыну і шлі да чужынцаў, або вагаліся паміж варожымі кірункамі. Але зараз прыходзяць часы, калі багач зрабіўся бедаком і пойдзе на вялікі шлях шукаць з намі, гаротнымі, новага багацьця, новага чалавечага ідэалу. А з глыбіні вякоў пазірае на нас Скарына, такі-ж вагаўшыйся і шукаючы, і, жадаючы нас, кажа:

«Над зімнымі хвалямі Дзьвіны я быў візантыйцам — Юрым, а ў Кракаве, куды мяне пацягнула за эўрапэйскаю ведай — лацінікам Францішкам. А дапраўды, я ня быў ні Юрым, ні Францішкам, а быў вольным, незалежным духам, якога вы шукаеце, духам агульна-чалавечым толькі ў беларускай скуры. Шукайце-ж"!

* * *

Ваганьне паміж захадам і ўсходам і шчырая няпрыхільнасьць ні да аднаго ні да другога — зьяўляецца асноўнаю адзнакаю гісторыі беларускага народу. Прыклад Скарыны, аб якім да гэтай пары няведама, хто ён быў такі, ці каталік, ці праваслаўны, і пэўна, што і той і другі разам, адбівае гэтае зьявішча беларускага духу ў індывідуальнасьці, ў душы нашага першага інтэлігэнта. Гэтую рысу беларуская народная інтэлігэнцыя захавала і да нашай пары, але як бачым, на тое ёсьць гістарычныя прычыны.

Ў X веку славяншчына прымае хрэст, а разам шмат чаго, як спадчыну з гаспадарсцьвеннага, эканамічнага і духовага ўстрою Візантыцка-Рымскай Імппэрыі. Заходнія славяны бяруць лацінскі ўзор, ўсходнія—візантыцкі. Беларусь апыняецца паміж варожымі кірункамі. Об'ектыўны стан рэчаў вымагае прыняцьця новае культуры, але гэтая культура ня творыцца арганінна, а накідаецца неперапрацованая народным

вет зьяўляюцца дзеячамі і, як кажуць, бываюць «вялікімі шышкамі» ў нас.

Вось, напрыклад, на нядаўным зьезьдзе каапэратараў Віленшчыны можна было кожнаму чуць, як вядомыя і сьвядомыя беларусы бралі слова і гаварылі.

Можна было чуць, як цягнула гэтых панкоў „przemawiać w języku rodzinnym“ (прамаўляць сямейнаю моваю. Рэд.).

Іншы з іх крычыць на ўсю Беларусь аб сваёй беларускасьці, а спытайцеся, што робіць яго бацька родны?

Іншыя хваляцца, што яны „старыя дзеячы“, а ўласных дзяцей сваіх пасылаюць вучыцца ў... польскія школы й гімназіі.

Што-ж гэта значыць?

Ці-ж не хапае няшчасным дзеткам беларускіх дзеячоў беларускіх шлол?

Могуць сказаць, што я ўмешваюся ў сямейныя справы і што яшчэ „Стары Статут Літоўскі“ кажа, што за дзеі сына бацька не адказвае і наадварот.

Ну што-ж зрабіць, калі я такі ўжо блага выхаваны чалавек, што-ж зрабіць, калі я хачу бачыць пэўнымі беларусамі толькі тых, хто беларусам ёсьць і будзе ўсюды — ў Расеі, ў Польшчы, ў Амэрыцы, навет у „Сьродковай Ліцьве“ і навет у сябе ў хаце.

«Бацька не адказвае за сына».

Гэта так.

А хто-ж адкажа за будучыну бедных дзетак сучасных беларускіх дзеячоў, што самі асымілююць будучых грамадзян тае Беларусі, для поўнага нацыянальнага жыцьця якое, гэтыя дзеячы сягоньня працуюць?

Ня йначай, як самі бацькі панясуць тут адказнасьць за лёс дзяцей сваіх.

Душы бацькоў гэтых двояцца напаловы, дзеля таго, што яны прайшлі праз чужацкую вырабу.

А хто возьмецца даказаць, што душы патомкаў іх ня будуць шчапацца ў друбязгі толькі таму, што яны, праз віну бацькоў, прайшлі праз тую самую вырабу.

Патрэбна-ж, нарэшце, нейкая лёгіка.

Ікс верыць, што будзе вольнаю Беларусь.

Дык няхай-жа Ікс рыхтуе сваё патомства да вольнага грамадзянскага жыцьця ў гэтай вольнай Беларусі.

Вось на гэта ўсё й хочацца зьвярнуць увагу нашай сьвядомай моладзі, да якой належыць п. Казлоўшчын і ў руках якой можа быць вольная будучына вольнай Бацькаўшчыны.

Ідзем проста сваею беларускаю сьцежкаю, не баючыся тых, хто ў дарозе прылучыцца да нас.

Пазірайма ўважна ня толькі ў адзін бок, напрыклад усходні, хто прылучаецца да нас адтуль.

Кінем вокам вакол сябе і ўбачым падобных да „усходніх“ сваіх «дабрадзеяў» іншага гатунку беларусаў.

Ня боймася розных „тоже бѣлоруссов“ і „też białorusinów“.

Бо яны ня страшны.

Ня страшны сваею няпэўнасьцю.

А што крыху шкодны, дык гэта датуль, пакуль народ беларускі ня сам гаспадарыць у сваёй хаце.

**Дзын-Дзылін.**



# Газэтны агляд.

## Амэрыканская расейская прэса аб Беларусі *).

Другая палова сакавіка прайшла пад яшчэ большым знакам зацікаўленасьці амэрыканскай прэсы ў беларускіх справах.

Вялікую ролю ў гэтай зацікаўленасьці адыграў бальшавіцка-польскі міравы дагавор ў Рызе, які з яшчэ большай несправядлівасьцю, чымся сумнай памяці Берасьцейскі мір, скрыўдзіў беларусаў і нарушыў самыя сьвятыя правы Беларусі.

Немаль што ня ўсе расейскія газэты, выказываючы свае задаваленьне скančэньнем, нарэшце, нікому непатрэбнай бойкі, разам з тым, спыняючыся на факте падзелу Беларусі, рашуча бяруць старану беларускага працоўнага народу і вельмі востра наракаюць на вінавайцаў гэтага здраднага падзелу.

Зноў, як і раней, найбольш месца і ўвагі да нашых інтарэсаў адводзіць газэта амэрыканскага эмігрантаўскага сялянска-працоўнага хаўрусу — «Американския Известия».

Яна дзень-ў-дзень зьмяшчае доўгі рад вялікіх артыкулаў ў 200 і 300 радкоў, ў якіх падробна высьвятляе створаныя на Беларусі жыцьцёвыя і палітычныя варункі. З гэтых артыкулаў найбольш цікавыя: «Русско-Польский мир», «Вести из Белоруссии», «Белорусская Миссия» і «Белорусская трагедия».

Чырвонай ніткай праз ўсе гэтыя артыкулы праходзіць пратэст проці падзелу Беларусі і думка аб тым, ці здолеюць палякі апалячыць забраныя імі кавалкі беларускай зямелькі і народу, ці гэта справа ім будзе не на сілу і беларускі народ, як і народ украінскі, знайдуць ў сябе досіць сілаў, каб даць належны адпор польскім лятуценьням і моцна захаваць і яшчэ больш умацаваць сваю народнасьць і нацыянальную свядомасьць.

Да гонару ўсей расейскай амэрыканскай прэсы трэба аднесьці тое, што ўся яна моцна верыць ў вялікую сілу беларускага народнага духу і глыбока перakонана ў тым, што беларускі народ ня дасьць груба калечыць свае душы і пойдзе на ўсё, каб адстаяць і абараніць сваю нацыю ад культурна-маральнага, эканамічнага і палітычнага ўціску:

„... і будучына пакажа: ўдасца ці не польскай шляхце апалячыць занятыя праз рыжскі дагавор беларуска-украінскія правінцыі; ці спіць народ, ці ён страпянецца духам?“

Зьяўляюцца час-ад-часу і галасы амэрыканскіх беларусаў.

Яны заклінаюць беларусаў да еднасьці і да рашучых арганізованых выступленьняў проці акупацыйных гвалтаў на падзеленых абшарах Беларусі.

У хуткім часе, пэўне-ж трэба чакаць іх магутнага і арганізаванага протэстуючага голасу.

Асабліва цікава адзначыць адну вельмі важную рэч.

Да другой паловы сакавіка ўсе заметкі, артыкулы і пратэсты скіроўваліся, глаўным чынам, проці акупацыйнай палітыкі Польшчы, а цяперака,—калі зьявіліся весткі аб паўстаньні на Беларусі проці камісарскіх зьверстваў, першыя ведамасьці аб якіх ішлі ў амэрыканскай прэсе з вялікімі знакамі пытаньня,—аўтары пачынаюць задумвацца над становішчам Беларусі пад панаваньнем маскоўцаў.

Страшэнная бальшавіцкая агітацыя, што кідае штодзенна тысячы радкоў ў дзесяцёх газэтах і затуманьвае гэтымі радкамі простыя і даверчывыя вочы беларускіх і маскоўскіх сялянскіх дзетак ў Амэрыцы,—не дае ім, пакуль што, добра разглядзець тое, што робіцца ў Савецкай Беларусі. Але факты самі гавораць за сябе: і аддача беларускіх паветаў маскоўскім прадстаўніком Іоффэ на ласку польскіх паноў, і прылучэньне адвечна беларускай—крывічоўскай Віцебшчыны і Полаччыны да Масквы, і нейкія, незразумелыя для амэрыканскіх беларусаў, паўстаньні ў Меншчыне, і арышты беларускіх соцыялістых-рэвалюцыянэраў перад самым кангрэсам і без якіх-бы там ні было прычын ў Менску,— ўсе гэта нямінуча патрэбуе развагі і тлумачэньня, якія не на карысьць выходзяць маскоўскім наезьднікам.

І ў № 70 (91) газэты «Американские Известия», за 30 сакавіка, мы знаходзім гарачы артыкул-пратэст грамадзяніна Сеня-Сенько — „Белорусская Трагедия“:

«Вы кажаце, што усялякі мір» (гэтак пачынаецца артыкул)—лепей калатні і бойкі, што усялякі мір — ратуе тысячы і мільёны людзей ад сьмерці і прыводзіць чалавецтва да нармальнае працы і карыстаньня яе плодам?...»

«Добра! можна было-б з вамі згадзіцца...»

«Але-ж беларускі народ, пралiўшы шмат крыві ў абарону расейскай рэвалюцыі, сёнека, ў падзяку за дапамогу,— аддадзены ў рабства свайму злейшаму ворагу, клерыкальнай шляхце!...

Які можа быць мір, калі некалькі мільёнаў братняга народу аддадзены на зьдзек і рабства?

Гэта ня мірнае ўстройства і жыцьцё, а трагэдыя.

Гэткага міру немагчыма назваць чалавечым».

З гэтых радкоў грозна паўстае мутная здань новай вайны на абшарах Беларусі, але ўжо вайны за яе Волю.

Пад якім-бы штандарам вайна ня ішла, ўсё-ж такі гэта—вайна.

Мы дарэшты абабраны.

Нашыя вёскі папалены. Гаспадарка зьнішчана. Жыхары разьвеяны па ўсім сьвеце.

Новая вайна, хоць-бы й за нашу незалежнасьць, прынясе нам новае мора крыві, слёз і разрухі.

Усе думкі нашы павінны быць скіраваны і ўсе крокі нашы зроблены ў адным кірунку — здабыць нашу Волю і Незалежнасьць, па магчымасьці, бяз крыві нашага народу і крыві нашых суседзяў.

**Кастусёнак.**

Рыга
29. IV. 21.

*) Глядзі № 21 „Наш. Думкі“.

# Прадстаўнікі Беларусі ў Брусэлі.

У суботу 21 траўня старшынёю польска-літоўскай конфэрэнцыі ў Брусэлі быў прыняты прадстаўнік Беларускага Ураду, міністар справядлівасьці п. Цьвікевіч.

Прыём у п. Гюманса адбываўся ў прысутнасьці сяброў камісіі Лігі Нацыяў праф. Дэні ад Францыі і консуля Наз ад Бэльгіі.

У часе гутаркі, што цягнулася каля 1 гадзіны, прадстаўнік Беларусі перадаў п. Гюмансу мэморандум Ураду Б. Н. Р. а так сама даў поўную інформацыю аб палажэньні ў Беларусі.

П. Цьвікевіч сказаў, што беларускае насяленьне Віленшчыны і Горадзеншчыны хоча жыць самастойным дзяржаўным жыцьцём, а калі гэта ў сучасны мамэнт, з пагляда ў палітычных, немагчыма, дык яно лічыць за лепшае часова ўвайсьці у склад Літоўскай Дэмокр. Рэспублікі на асновах дзяржаўнае фэдэрацыі.

Беларусы Віленшчыны й Горадзеншчыны ні ў якім выпадку не дапушчаюць думкі аб акупацыі гэтых земляў Польшчаю.

П. Гюманс, адказваючы, падкрэсьліў, што Рада Лігі Нацыяў вельмі ўважна сочыць за беларускім рухам і спагадна адносіцца да ідэі беларускай незалежнасьці. Ён можа ўжо цяпер заявіць, што законныя жаданьні Беларускага Народу будуць ўзяты пад увагу, а законныя правы беларусаў забясьпечаны.

духам. Усходнія і заходнія славяны прымаюць эўрапэйскую культуру з яе формальнага боку. Беларусь з гэтага часу пачынае вагацца. Як тая Рагнеда, ўзятая ў палон кн. Валадзімірам, Беларусь павінна хрысьціць сваіх дзяцей пад прымусам на ўсходні ўзор, але выхавае іх на стары капыл паганцамі, ў нялюбасьці да ўсходняга хрысьціянства. Крывавая барацьба паміж кіеўскімі і полацкімі (беларускімі) князямі вызначае той час беларускай гісторыі і адбіваецца навет ў «Слове аб палку Ігараве“, дзе пяецца аб вялікай бойцы на Нямізе, ля Менску. Гэты-ж літэратурны памятнік адбівае і другую рысу тагочасных беларусаў: зрабіўшыя хрысьціянамі, яны не запомнілі аб сваіх старых пераконаньнях; князь Ўсяслаў Чараўнік—добры хрысьціянін: ён слухае утраню ў Полацку, але абяртаецца сівым ваўком і бяжыць да кіеўскай Софіі на абедню.

Прыхільнасьць да старой паганскай веры зрабіла тое, што у XIII в. Беларусь злучаецца з «паганскай» яшчэ Літвой. Мусібыць, Зьніч літоўскага князя гарэў ярчэй, чымся крыжы кіеўскага князя і польскага караля.

Часы Гэдыміна, калі кругом пачалося зьбіраньне славянскіх земляў: на ўсходзе—Калітой, на захадзе—Лакеткам, а асабліва часы Альгерда і Вітаўта даводзяць, што беларускі народ выказаў шмат гаспадарсьцвеннай, арганізацыйнай здольнасьці. Пасьпех Масквы сапсаваў Літве-Беларусі зьдзейсьніць аб'яднаньне «ўсея Русі». Візантыцкая культура з яе ідэяй самадзяржаўнасьці дапамагла Маскве стварыць з частак Русі, фінскіх і татарскіх земляў вялікую моцную дзяржаву. Беларускае ваганьне і нявыразнасьць зрабіліся ў ты часы фатальнымі. Неакрэсьленая палітыка Вітаўта, яго прыхільнасьць да польскага шляхоцтва, яго нявызначаныя адносіны да беларускіх князёў і народу, зрабілі тое, што Беларусь траціць гаспадарсьцвенную незалежнасьць, а разам і магчымасьць выказаць свой культурны твар.

Памiралі паганскія багі, а новых так і ня прыгнаў беларускі народ. Прышла рэфармацыя, кінуліся беларусы шукаць новае слова, але і новае слова іх не задаволіла. Толькі старыя муры па вёсках і мястэчках сьведчаць, што ў самае серца Беларусі прыйшло кальвінскае казаньне, але не затрымалася, памёрла. За ім прышло каталіцтва. І вось, прыпадкова, дзеля чыста-тэрыторыяльнай стычнасьці то з ўсходняй, то і заходняй культурай, беларусы падзяляюцца на дзьве часткі, але застаюцца варожымі і няпрыхільнымі да абедвюх.

З гэтага часу ваганьне народнага розуму і сумленьня ня перапыняюцца. Гэтаму ваганьню пачынае адпавядаць і блутаньне па нашым краі дзяржаўнай граніцы. То далёка на ўсход заходзіць яна і ў тых паветах, дзе цяпер запомнілі аб польскім панаваньні, захаваліся граматы і гэрбы „Gospodara Korola ego miłości sławnaj pamiaci Żykgimonta» і Ўладыслава і іншых, то наадварот, ў глыбіне Літвы вырастае магільны курган «ваяводы рускага цара»—глыбока ў нашай старонцы гаспадарылі тады казацкія шаблі.

Так плылі вякі... зноў, на нашай памяці пьюць ваду з Дняпра польскія коні, а праз колькі тыдняў над Бугам і Віслай гараць нялічаныя дымныя агні ворагаў і чуваць маркотную валгарскую песьню.

Да нашага часу беларускі народ ня ставіць апору ні ўсходняй ні заходняй хвалі і яны вольна перакочваюцца над яго галавой. Страціўшы ў сабе вольнага паганца, што маліўся пеньню зьліваўся духам з вялікімі сіламі зямлі, пяяў прыгожыя песьні, сустракаючы вясьнянкамі Вясну, або хаваючы Купалу, што мог вольна адпавядаць і вольнаму дыханьню ветру і руху свае душы,—страціўшы ўсё гэта, беларус ня ўбачыў нічога прынаднага і ў новым складзе жыцьця. Ўплывы захаду і усходу ў перакручаных, спэцыфічна славянскіх, часам карыкатурных выразах, круцілі і гвалцілі душу беларуса, толькі прымушаючы яго ўбачыць, што ў чужой скуры заўсёды дрэнна, што трэба вытварыць нешта сваё, роднае, блізкае, арганічнае. Шмат вякоў беларусы вялі змаганьне з чужынскімі варожымі ўплывамі за сваю душу, і, здаецца паблiжаюцца часы, што будзе яна вольнай. Жыцьцё ставіць мяжу старажытным ідэалам і кліча беларускі народ, зьняважаны і забіты, ісьці пароўні з іншым на будоўлю новага агульна-чалавечага ідэалу.

У гэты час, хай будзе нашым правадыром і сьветачам старажытны Скарына, „доктар лекарскіх навук з слаўнага места Палацку“, што хацеў лячыць беларускі народ праменьнямі духовай асьветы. Ён на сабе адчуў гвалт чужацкіх культур і ня прызнаў іх сваімі ў сваім сэрцы. Першы ад усіх пазнаў, што толькі праз разьвіцьцё асабістага і народнага духу дойдзем мы да усечалавечага ідэалу, і на мужыцкую простую мову пераклаў Сьв. Кнігу—тады адзіны праменьчык усечалавечнасьці.

За ім цягнецца карагод, што шукалі свайго ўласнага духу, вагаліся, расчароваваліся і гінулі.

Не знайшоў свае праўды вялікі Адам і згінуў на чужыне з болем ў сэрцы; блуталіся романтыкі, ў глыбіне сэрца хаваючы нуду і скаргу. Наша пакаленьне павінна стаць апошняй чарадой пад пахмурным пажагнаньнем Скарыны: «І на ўсходе і на захадзе — шукайце!».

**Ігнат Абдзіраловіч.**

(*Працяг будзе*).



Беларуская дэлегацыя, апрача гэтага мела гутарку і з сябром кантрольнай камісіі палкоўнікам Шардыны і мела перагаворы з Літоўскай Дэлегацыяй, якой яна даручыла абарону беларускіх інтарэсаў на брусэльскай конфэрэнцыі. (Бел. Прэс.).

## Дымісія Ладнова.

Я. Ладноў выбыў з Рады Народн. Міністраў Б. Н. Р., а так сама і з бел. дэлегацыі ў Парыжы.

## Штодзенныя весткі.

*Пятніца*, 27 *траўня* 1921 *г.*

— У Францускім парлямэнце старшыня рады міністраў Брыян сказаў прамову па сьлезкаму пытаньню. Між іншым ён сказаў, што францускія войскі не маглі сьцішыць паўстаньня таму, што ў паўстанцаў аказалася 50.000 войска. Паўстаньне было выклікана тым, што па праекту Коаліцыі да Нямеччыны праектована было прылучыць 479 гмін, а да Польшчы толькі 194, якія на плебісцыту выказаліся за Польшчу. Самы плебісцыт быў выкліканы дамаганьнямі немцаў, якія хацелі пасварыць між сабой дзяржавы Антанты. Цяпер Францыя будзе вымагаць ад немцаў, каб яны выпаўнілі свае абавязкі.

*Субота*, 28 *траўня* 1921 *г.*

— У Ополе (В. Сьлезія) прыехалі першыя аддзелы ангельцаў.

— Сілы немцаў у В. Сьлезіі дасягаюць 32 тыс. чалавек. Нямецкі фронт ідзе ўздоўж пазнанскае мяжы праз паветы Ключборскі, Олескі, Стржэлецкі, Казельскі і Раціборскі. Ёсьць у немцаў кулямёты і артылерыя, 8 бранявых цягнікоў і інш.

— Бальшавікі каля Кіева рыюць акопы. Мобілізаваны усе мушчыны ад 16 да 40 гадоў, а так сама і кабеты.

— Брыян згодзіўся на склісканьне Вярхоўнае Рады. Рада зьедзецца ў палове чэрвеня.

*Нядзеля*, 29 *траўня* 1921 *г.*

— Вітос з габінэтам падае ў адстаўку. Старшыня сойму зьвярнуўся пісьмом да Галавы Дзяржавы з радай ня прымаць адстаўкі, дзеля таго, што стварэньне новага габінэту займе доўгі час, што створыць небясьпеку для Дзяржавы. Відаць Пілсудскі адстаўкі ня прыме.

— Немцы спынілі наступленьне проці паўстанцаў у В. Сьлезіі.

— Украінская акадэмія навук падгатоўвае выданьне украінскай энцыклёпэдыі.

— Агульны лік палякоў, жадаючых выехаць з Сав. Расеі дасягае 1 мільёну.

— Карахан будзе савецкім паслом у Варшаве.

*Панядзелак*, 30 *траўня* 1921 *г.*

— Справа з крызысам габінэту ў Польшчы ня выясьнілася.

— Фабрыкі на тэрыторыі В. Сьлезіі, занятай паўстанцамі пачынаюць працаваць.

— У Кракове зьезд каталіцкіх біскупаў. Будуць разгледжаны справы рэлігійных адносін у Амэрыцы, Сыбіры, Расеі, Польшчы, аграрныя справы і пытаньне аб дзяржаўнай пэнсыі духоўнікам.

— Чырвоная армія Міцкевіча-Капсукаса згуртована ў Смаленску, Воршы і інш. гарадох.

— У Польскім сойме дэпутат Ланцуцкі у сваёй прамове заявіў сябе камуністым.

— Японцы вырашылі выклікаць свае войскі з Усх. Сыбіру.

— У Саратаўскай губ. было новае паўстаньне проці Саветаў, але і яно сьцішана.

*Аўторак*, 31 *траўня* 1921 *г.*

— У В. Сьлезіі заключана часовае замірэньне, гарантыраванае польскай камісіяй.

— У Сав. Расеі пашыраецца эпідэмія брушнога тыфусу і халеры.

— Сав. Урад надта ўстрывожыўся стварэньнем саюзу Балтыцкіх дзяржаваў. Чычэрын загадаў сваім паслом працаваць на шкоду гэтаму саюзу.

— У Мозыры ўзбунтавалася 40 савецкая брыгада. Жаўнеры забілі свайго камісара. Бунт праз 5 дзён прыціснулі.

— Нач. Дзяржавы ня прыняў адстаўкі Вітоса і загадаў яму знайсьці кандыдатаў на месца тых міністраў, што выйшлі у адстаўку пасобку.

— „Руспрэс“ паведамляе, што бальшавікі па загаду з Масквы разагналі Смаленскі „Совдэп“ за тое, што на новых выбарах у яго прайшлі 67% безпартыйных.

*Серада*, 1 *чэрвеня* 1921 *г.*

— Ковенскія газэты паведамляюць, што Літоўскі ўрад згодзіўся прыняць праект Гюманса з некаторымі папраўкамі.

— Лёйд-Джордж сказаў што Англія ніколі ня згодзіцца на істнаваньне незалежнай Ірляндыі.

— Ленін зьбіраецца выдаць новы дэкрэт аб прыватных фабрыках і заводах, на якіх будзе ня больш як па 300 работнікаў. Камісары будуць кантраляваць іх.

*Чацьвер*, 2 *чэрвеня* 1921 *г.*

— У Рызе ловяць камуністаў. Арэштавана 60 чалав., 7 чалав. пры гэтым забіта.

— На Украіне бальшавікі да нечага рыхтуюцца. Каля гарадоў рыюць акопы, абносяць іх калючым дротам і сьцягваюць туды войска.

— У Дамброве (Польшча) адбыўся мітынг работнікаў вугалёвых капальняў з мэтай пратэсту проці падаходных падаткаў, якімі работнікаў аблажыў урад. Як піша „Kur. Warsz.“ пры разгоне мітынгу паліцыя ужывала аружжа—ёсьць забітыя і раньня.

— У Петраградзе ізноў неспакой. Узьнікаюць новыя забастоўкі. У адбыўшайся рэлігійнай працэсіі прыймала удзел шмат народу.

## Провінцыяльны аддзел.

**ДОКШЫЦЫ, Дуніловіцкага павету.**

Па Рыжскаму міру наш горад адыйшоў да Польшчы. Па гэтаму міру нас пакрыўдзілі, як і усіх беларусаў, аддзялілі ад сталіцы бацькаўшчыны—Менску.

Але у нас добрых 5 месяцаў істнуе саюз маладых дзяўчат і хлапцоў Беларусі, каторы мы назвалі «Беларускае колка». У склад гэтага колка ўходзяць найбольш настаўнікі й настаўніцы народных школ вёсак і гораду.

Уся праца «колка» зьвернена на культурнае разьвіцьцё і прасьвету нашых сялян і жыхароў гораду. З гэтай мэтаю ставяцца спэктаклі. Ужо ад каляд было 6 спэктакляў у горадзі і вёсцэ Вяцярах. Былі пастаўлены камэдыі і жарты: «Модны шляхцюк». «Міхалка», «Як яны жаніліся», «Па рэвізіі», «Мядзьведзь», «Сватаньне», „Паўлінка“ і інш. Зыск пашоў на карысьць беларускіх бедных і чырвоны крыж.

Праўда і на гэтым шляху нас крыўдзяць, уважаюць за нішто, хочуць нас зусім ня бачыць...

Вы думаеце хто гэта робіць? — Скажаце—палякі? Барані Божа, — не! (трэба сказаць праўду, што улада польская адносіцца да нас добра). Гэта сьмяюцца нашыя жыхары горада—жыды і паўпанкі-беларусы (каб ужо «пан», дык справа іншая). Як гэта было ў нядзелю 15 траўня перад беларускай вечарынкай у гімназіі. Прышла настаўніца (памешчыца) і рагатала да сьлез, што сёньнека будуць «скокі», а ня «танцы». Нарагатаўшыся досіць, пачала ўсіх беларусоў абзываць «дурнямі», «галадранцамі», ідыётамі і іншымі „добрымі словамі“. Быўшыя пры тым беларусы маўчалі, пакуль панечка добра нарагаталася і назьдзекавалася, а пасьля кіраўнік вечарыны уступіў з ёй у спрэчку і даказаў «умной», што *Беларусь была, ёсьць і будзе*, а настаўніца са злосці стукнула дзвярыма і пайшла.

Усе гэтыя зьдзекі нашага «Беларускага колка» ня страшаць і ня спыняюць перад выпаўненьням нашага заданьня.

У нас, як у горадзе, так і у вёсках няма яшчэ беларускіх школ, але з восені сяляне хочуць адчыніць некалькі школ. Парадзьце нам: што трэба рабіць, каб у нас былі з восені школы?

Просім высылаць газэту „Нашу Думку“ і навейшыя творы. **К.**

**М-ка ІЛЬЯ, Вялейскаго павету.**

У мястэчку Ільля сьвяткавалі 3-е мая, аб чым солтысы павінны былі паведаміць усе вёскі і самі прыйсьці на азначаны дзень. Давялося і мне быць.

Перша што кінулася ў вочы, гэта марнатраўства нашых лясоў: усё мястэчка было па загаду раённага аздоблена ёлкамі і бярозкамі. Я налічыў гэтых непатрэбных афяраў у той веснавы дзень больш, як дзьвесьце і гэта у адным мястэчку.

На ўрачыстасьці выступаў тутэйшы абанкручаны абшарнік Эдвард Казлоўскі, каторы запэўняў нашых сялян у «добрай хэнці» шляхты, а нарэшце ляпнуў, што Польшча дажыла шчасьлівай хвіліны, бо цяпер няма ні Беларусі, ні Літвы, ні Украіны, а есьць толькі Польшча. На яго «нех жые» народ стаў моўчкі расхадзіцца.

**У Алькаўскай гміне** солтысы зьбіраюць цяпер статыстычныя даныя, па загаду раённаго, дзе паміж іншым есьць пытаньне і аб нацыянальнасьці. Сяляне, разумеецца, пішуцца усюды беларусамі, але паны не сьпяць, давай страшыць сялян, што хто запішацца беларусам, таго прылучаць да Совдэпіі альбо будуць арыштоўваць. Напуджаныя сяляне перыходзяць у гміну і просяць каб іх перапісалі з беларусаў да палякоў. Муцяць народ, але-ж, як кажуць, цягнуў воўк—пацягнуць і ваўка.

**Ігналь Лабач.**

**Вот табе на?!**

Начальнік району у м. Ільля, Вялейск. павету зьвярнуў тутэйшаму сьвяшчэньніку назад яго просьбу пісаную на беларускай мове.

Сьвяшчэньнік прасіў пазваленьня на ўстройства прыхадскога сабраньня 22. V. Сабраньне не адбылося, бо не адтрымана пазваленьня п. начальніка. Прычына — просьба пісана на беларускай мове. Кажуць трэба, пісаць папольску і прылажыць 20 марак. Скора, глядзі, ці ня скажуць нам і маліцца папольску. Вот табе й на!

**Беларускі спэктакль у Ільі, Вялейскага павету.**

У Ільі 15 мая г.г. адбыўся беларускі спэктакль, арганізаваны гуртком тутэйшай моладзі. Ставілі: „Птушка шчасьця“—опэрэтка ў 2 актах Ф. Аляхновіча, „Модны шляхцюк“ жарт у 1 акце К. Каганца і дывэртысмэнт. У дывэртысмэнт увайшлі вершы „Ворагам беларушчыны“, „Град“, „І як тут не сьмяяцца“ (куплеты), „Краю мой родны“ і інш. Пасьля выступіў народны хор пад кіраўніцтвам Ў. К., каторы прапяяў песьні: „Беларускую марсэльезу“, „Прашла восень, мужычок“, „У гародзе рэчка“, „Полька-бульба“, „Гэй у лесе“ і інш.

Пры цяжкаватых варунках прыходзілася ставіць гуртку моладзі гэты спэктакль: прыходзілася вясьці змаганьне з цёмнымі сіламі, якія стараліся пашкодзіць спэктаклю, на сваіх плячох цягаць дошкі і іншыя рэчы, два разы зьезьдзіць у Вялейку (30 вёр.) за дазволам. Але энэргія ў моладзі была невычарпаная: яна дзень і ноч працавала. За паўтыдня перад спэктаклем зрабілася новая бяда: захварэў на горла рэжысэр. Але і ён, ня гледзячы на тое, што хвароба была страшнаватая і што доктар забараніў яму гаварыць, афяроўваў сваім здароўем для нацыянальнай справы. Хор яму ўжо прыходзілася вучыць сьвістаньнем.

У вечары ў нядзелю 15 мая вялізны ток быў напоўнен, як зачыніць. Было больш за пяцьсот асоб. Ток быў хораша дэкораваны; над заслонай на вялікім палатне намаляваны родныя пэйзажы. Адчынілі заслону і пры магільнай цішы ўрачыста прапеялі „Беларускую марсэльезу“. Ігралі артысты-аматоры надспадзявана. Кожны быў на сваім месцы, кожны дасканальна разумеў сваю ролю. Добрая ігра, добра загрыміраваньня артысты, чыстата і яснасьце мовы рабілі моцнае ўражаньне на публіку, што з гэткай прагавітасьцю лавіла кожнае слова, што чуваць было, як праляціць муха. Сардэчным крыкамі і дружьнымі воплескамі дзякавала публіка маладым артыстам. Добрыя ўспаміны пакінуў спэктакль ў сялян, якія прасілі, каб такія спэктаклі ставіліся як найчасьцей. На другі раз намечана паставіць «Пінскую шляхту» Дунін-Марцінкевіча і „Як яны жаніліся“. **У. Н.**

3 мая ў нас было сьвята Польскай конституцыі. Пасьля набажэнства ў касьцёлі быў паход на рыначны пляц. Уперадзі нясьлі знамя, а за ім ішоў ксёндз, рабін і начальства. На рынку людзі пачулі ад тутэйшага аратара, што тут няма Беларусі, (?) а ёсьць толькі Польшча. Ніхто, вядома, яму непаверыў, бо другі аратар гаварыў да народу чыста пабеларуску; праўда і ён казаў толькі аб Польшчы, але ўсе ведаюць, хто ён. Знае добра беларус, што ня кожны той баранчык, што ў авечай скуры. **Беларус.**

**ГОРАДЗЕН.**

**Судовая справа рэдактара газэты „Беларускае Слова“ ў Горадне п. Ул. Шалешкі.**

18 мая г. г. Горадне ў вакружным Судзе слухалася справа рэдактара газэты „Беларускае Слова“ п. Ул. Шалешкі, прыцягненага да адказу па 129 арт. за перадрук з газэты „Наша Ніва“ артыкулу „Адна вера, але не адзін народ“.

Ў абароне п. Шалешкі выступаў адзін з найлепшых адвакатаў у Горадне п. Левенгендлер-Лявіцкі.

Суд пастанавіў справу адлажыць і вярнуць для дасьледаваньня, каб выясьніць, ці сапраўды „Наша Ніва“ праходзіла праз вайсковую цэнзуру.

Прабег слуханьня справы быў гэткі:

Старшыня Суду аглашае, што слухаецца справа Ул. Шалешкі

Пасьля ўсіх фармальнасьцяў, прыступаюць да разгляду справы.

Старшыня аглашае акт абвінавачаньня і пасьля гэтага задае пытаньне п. Шалешцы:

— Абв. п. Шалешка! — Ці прызнаеце сябе вінаватым?

Абв. Прызнаю факт надрукаваньня ў газэце артыкулу, але сябе вінаватым не прызнаю.

Адв. Прашу Суд далучыць да справы газэту „Наша Ніва“, з якой быў зроблены перадрук.

Азнаёміўшыся з газэтай, пракурор заяўляе, што ў гэтым артыкуле няма тых выразаў, што ў артыкуле надрукованным у „Белар. Слове“; праз гэта, апрача перадруку, тутака ёсьць некалькі слоў больш. На падставе гэтага ён протэстуе проці далучэньня да справы газэты «Наша Ніва».

Адв. Прашу Суд зьвярнуць увагу на тое, што п. Шалешка абвінавачваецца за зьмяшчэньне цэлага артыкулу, але ня некалькіх слоў і прыймаючы пд увагу, што як адна, так і другая газэта

